Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 8. Вільня, 24 красавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |





*Вільня, 17—24 (11) IV.*

Вялікдзень — вялікае сьвята, сьвята вясны, сьвята трыумфу і перамогі ідэі любасьці і братэрства над злом і ненавісьцю, сьвята перамогі жыцьця над сьмерцяй.

Трыумф ідэі любасьці і братэрства! Трэба глыбока глядзець у істоту падзеяў, каб казаць аб трыумфе гэнай ідэі тым, хто перажыў нядаўна мінулую сусьветную вайну, хто бачыў мільёны азьвярэлых людзей у сьмяротнам змаганьні, хто пераджыў расейскую рэвалюцыю, ўтапіўшую ў моры людзкой крыві ідэю любасьці і братэрства, бачыў падчас яе, як блізкія сабе людзі рабіліся заўзятымі варогамі, як брат растрэльваў брата, як сын забіваў бацьку.

Трэба глыбока верыць, каб казаць аб трыумфе ідэі любасьці і братэрства пад грымот гарматніх стрэлаў, якія бязупынна гудзяць і цяпер у розных краінах і, быццам жывыя сьведкі, пярэчаць гэнай ідэі.

Аднак ідэя любасьці і братэрства жыве і трыумфуе і будзе жыць вечна. Забытая ў гады ненавісьці і злосьці, высьмеяная, аплёваная—яна ўваскрасае зноў і паўстае з мора крыві і людзкога гора чыстай і яснай, як сонца вясьнянае, і, як пуцяводная зорка, зноў паказвае чалавецтву ў цёмры яго жыцьця той шлях, якім павінна ісьці яно, да лепшае ясьнейшае долі. Год за годам, у працягу тысячалецьцяў, яна ўсё больш і больш заваёўвае сабе сэрцы і думкі людзей.

Прападаюць народы, развальваюцца дзяржавы, забыўшыя гэную вялікую ідэю і на папялішчы іх паўстаюць новыя народы, новыя дзяржаўныя арганізмы і, скрышыўшы ланцугі няволі, яны імкнуцца да новых формаў вольнага жыцьця і жывуць да тэй пары, пакуль зло і ненавісьць не пераможа ў іх высокіх ідэалаў любасьці і братэрства. Тады лёс падзеяў зьмятае іх з твару зямлі. І гэнае змаганьне зла і ненавісьці з ідэяй любасьці і братэрства трывае ад вякоў. Гэтак упала вялікая Рымская імпэрыя тысячы год таму назад, апанаваўшая амаль увесь вядомы тады сьвет, гэтак развалілася магутная дзяржава пэрсідзкіх цароў, гэтак прад нашымі вачамі ідзе працэс развалу Расейскай Імпэрыі.

Вось шлях, якім ідзе працэс вызваленьня народаў і нацыяў. Побач з ім ідзе працэс матар'яльнага і духоўнага вызваленьня чалавека.

Падзел людзей на нявольнікаў і валадароў паволі адыходзіць у цемру гісторыі. Штораз большыя і большыя грамады былых рабоў—былой рабочай жывёлы — здабывае сабе правы чалавека, здабывае доступ да сьвятла навукі і, гэткім чынам, скідае з сябе ланцугі духоўнай няволі. Не! ні гром гарматніх стрэлаў ні сусьветныя бойні народаў ня спыняць ідэі любасьці і братэрства.

Няхай злосьць і ненавісьць ад часу да часу спраўляе яшчэ баль на зямлі, няхай яшчэ зьвіняць і тут і там ланцугі няволі, але мы верым, што прыдзе дзень, калі гэная вечная ідэя апануе сэрцы і душы ўсіх людзей і тады прыдзе час запраўднага іх вызваленьня.

І вось сягоньня, на Вялікдзень, у дзень Сьвята трыумфу ідэі любасьці і братэрства, калі разам з песьняй жыцьця, прабуджанай ад зімовага сну, прыроды паляціць па вёсках і нівах нашае заняпалае Беларускае зямліцы вясёлы вялікодны звон, няхай звон гэты заграе ў сэрцах нашых сярмяжных братоў песьняй любасьці і братэрства.

Няхай яна будзе чароўнай музыкай у нашым бяздольным жыцьці. Няхай будзе сонцам ясным, асьвятляючым маркотны шлях нашага сучаснага жыцьця, няхай будзе прадвесьнікам таго Вялікага Дня, калі гэная вечная ідэя, ідучая да нас з-прад вякоў з няухільнасьцю жалезнага закону, прынясе з сабой вызваленьне нашае бацькаўшчыны. І мы павінны чакаць гэнага дня і рыхтавацца да яго спатканьня, гадуючы ў сэрцах і душах нашых гэную вялікаю ідэю і памятуючы аб тым, што ня злосьць і ненавісьць, а любасьць і братэрства прынясе нам запраўднае вызваленьне.

## „Вялікдзень".

(*Паводле Раманава*).

„Вялікдзень", альбо інакай „Вялікадня" лічыцца ў нас, беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, найбольшым сьвятам. На вёсках гэтае сьвята цягнецца цэлы тыдзень, які так і завецца „Вялікодным".

Падгатоўка да сьвятаў пачынаецца з серады апошняга тыдня вялікага посту. Мыюць абразы, сталы, беляць сьцены, наогул чысьцяць усё. Дзеля гэтага ўвесь тыдзень завецца „чыстым". У народзе так і кажуць: „чысты чацьвер, чыстая серада" і г. д.

Адначасна з чысткаю, гаспадыні рыхтуюць закускі. Самае галоўнае, гэта пякуць булкі з пшанічнае мукі. Гэтая булка завецца „Паска".

Апрача „паскі"—абавязкова павінны быць: чорны хлеб з сольлю, сыр, кусок сала і яйкі. Калі гаспадар багацейшы, дык шынка, парася, курыца і г. д. Сьвянціць у царкву, альбо касьцёл, нясуць паску, кусок сала, альбо мяса, сыр і яйкі. Усё гэта завязваюць у чыстую хустку, альбо абрусікі, падчас абрацу запальваюць сьвечкі.

У 12 гадзін ночы, калі пачынаецца набажэнства і крэсны ход у царквах, страляюць з стрэльбаў, альбо пушчаюць ракеты, ў той час, як засьпяваюць „Христос Воскресе". У некаторых мясцох—пасьля таго, як гаспадар прыходзіць з царквы дамоў, адно яйко абавязкова апушчаюць у ваду, каторую потым усе мыюцца, а яйком гладзяць твар, каб быць здаровымі і „чырвонымі" ўвесь год. Пачынаюць разгаўляцца так. Старшы з сям'і рэжа яйкі на столькі кавалкаў, колькі чалавек у сям'і і раздае кожнаму па кавалку, якія зьядаюць з сольлю. Потым ядуць сыр, альбо тварог з сьмятанаю, паску, сала і нарэшце мяса. Разгавеўшыся, кладуцца абавякова спаць, але перад гэтым выходзяць глядзець, як „граець сонца", бо ў народзе пераконаны, што на „Вялікдзень" сонца таксама радуецца і ўсходзіць іначай, ніж у звычайныя дні.

Выспаўшыся, ідуць на вуліцу, альбо пад царкву ці касьцёл і там граюць у яйкі. Чыё яйко мацнейшее — той „выбіваець" і забіраець выбітае яйко

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 7 „Б.Д."*).

На спатканьне пасажырскага параходу, які прыбывае ў Энзэлі толькі два разы ў тыдзень, выходзіць уся амаль, даволі вялікая расейская калёнія ў Энзэлі.

Той чакае газэтаў, той пісьмаў, той зноў прыезду блізкага чалавека, а іншы прыходзіць проста паглядзець на сьвежыя твары. Ёсьць яшчэ адно, што пхае ўсіх расейцаў на спатканьне параходу, і ў чым яны не даюць сабе адчоту, гэта тое, што для іх, для гэтых закінутых людзей, параход гэны ёсьць сымболем Расеі, ёсьць тым ланцужком, які падтрымлівае сувязь паміж імі і далёкай іх бацькаўшчынай.

Дзеля гэтага, сайшоўшы з параходу, я адразу спаткаў камандзера свае часьці і пазнаёміўся з усімі, быўшымі ў Энзэлі, афіцэрамі роты.

Яны закідалі мяне сотнямі розных пытаньняў, так што я ледзь пасьпяваў адказваць. З усіх іх словаў і гутарак веяла неапісальная туга да бацькаўшчыны і кожны, пытаючы аб розных справах, накіроўваў усе свае думкі ў адным напрамку і чакаў адказу на адно толькі пытаньне, а пытаньнем гэным было: ці хутка канец вайны?

З гутарак з імі аб тутэйшым іх жыцьці, я вынес самае цяжкае ўражаньне: малярыя, халера, брушны тыфус, камары і маскіты, скарпіёны, фалангі і сьпякота, страшэнная сьпякота, вось кветкі жыцьця ў Пэрсіі. Слухаючы іх, я прыпомніў словы свайго дзяншчыка Карапэта, сказаныя на параходзе ў прыпадку мэлянхолічнага настрою пад уплывам марской хваробы:

— Папалыс мы с вамы, Вашэ б-дые, нэнада было ехат Пэрсыя, — казаў тады ён.

— Ох, ня трэба было ехаць,—думаў цяпер я, слу-

сабе. Пры гэтым бываець і ашуканства. Даюць „каштаваць“—пастукаць у зубы — звычайнае яйко, але потым спрытна замяняюць яго „заліванкамі“, ў каторых насок заліты воскам, альбо гіпсам. Гульня з яйкамі цягнецца ўвесь вялікодны тыдзень. Пры спатканьні цалуюцца тры разы з знаёмымі, а на першы дзень і з кожным сустрэчным.

У царквах—„царскія вароты“ адчынены, а ў народзе вераць, што на Вялікдзень цэлы тыдзень адчынены вароты ў „сьветлы рай“ і „хто памірае, той шчасьлівы“, бо пападаець у рай бяз ніякіх перашкодаў. Ёсьць і легенды. Адна з іх кажа, што Хрыстос ад першага дня Вялікадня аж да Вазьнясеньня хадзіў па зямлі і заходзіў у госьці да бедных, няшчасных людзей. На першы і на другі дзень Вялікадня маладыя хлапцы і дзяўчаты ходзяць увечары „хрыстосаваць“ і сьпяваюць пры гэтым пад вокнамі, альбо ў хаце розныя песьні.

„Хрыстосаўнікам“, альбо як іх прозываюць „валачобнікам“ даюць паску, сала і яйкі.

Даўней „валачобнікі“ хадзілі па 15 чалавек. Адзін з іх лічыўся „пачынальнікам“. Ён сьпяваў усю песьню. Рэшта за кожным ягоным вершам дадавала: „Хрыстос Уваскрос сын Божы“, альбо „А зялён явар кудравы!“ „А зялёны сад вішнёвы!“ „А віно-ж наша зеленое!“ Часам з „валачобнікамі“ хадзіў музыка са скрыпкаю, які акомпаньяваў усяму хору і „механоша“, які насіў зьбіраныя яйкі і закускі.

Назьбіраўшы закусак, хлопцы куплялі гарэлкі і пачыналі гуляць. Калі гарэлкі было зашмат, дык гульня гэтая часта канчалася ня зусім спакойна. Цяпер „валачобнікі“ ходзяць дзе-ня-дзе, а замест іх сьпяваюць валачобныя песьні маладыя хлопчыкі і дзяўчаты.

Чацьвер па Вялікодным тыдні называецца „Вялікдзень памёршых“. У гэты дзень варыцца лепшы абед, малююць сьвежыя яйкі і па абедзе ходзяць на могілкі. Там моляцца за памёршых, а яйкі альбо зарываюць у зямлю, альбо раздаюць бедным.

Вялікодныя сьвяты канчаюцца „Радаўніцаю“, якая бывае ў аўторак на другі тыдзень пасьля „Вялікадня“. У гэты дзень варыцца багаты абед і ўся сям'я ідзе на могілкі ў госьці да памёршых. Пасьля набажэнства, п'юць і ядуць усё тое, што прынесена з дому і назад нічога не нясуць, а калі што застанецца, раздаюць бедным. Слова „Радаўніца“ паходзіць ад слова „радавацца“. Народ верыць, што ў гэты дзень усе памёршыя радуюцца з Уваскрасеньня Хрыста.

Вялікодныя сьвяты ня толькі хрысьціянскія сьвяты, але і глыбокая народная традыцыя, якая перайшла да нас ад продкаў, калі славяне ня былі яшчэ хрысьціянамі, а спраўлялі паганскія сьвяты вясны і адраджэньня прыроды.

Вось чаму ў вялікодных песьнях і асабліва ў песьнях валачобнікаў шмат засталося перажыткаў гэтага старадаўняга, паганскага сьвята, Сьвята Вясны.

*Падаў В.*

## Што патрэбна дзеля адчыненьня прыватнае народнае школы?

Школьны кураторыюм віленскага вокругу апублікаваў гэткае абвяшчэньне ў справе выдаваньня канцэсіяў (дазволаў) на адчыненьне прыватных народных школаў:

„Кураторыюм паведамляе, што, пачынаючы ад 1927—28 школьнага году, ён будзе выдаваць бестэрміновыя канцэсіі (выключаючы асаблівыя выпадкі) на прыватныя народныя школы.

Прыватныя асобы і законна прызнаныя таварыствы, якія стараюцца канцэсіі, павінны падаваць

---

хаючы гутаркі сваіх новых таварышоў. Мой Карапэтка аднак тымчасам думаў мусіць інакш. Пачуўшы пад нагой цьвёрдую зямлю, якая ня хісталася і адразу пазбыўшыся марской хваробы, якая мардавала яго да апошняй хвіліны, ён быў вельмі галодны, выкінуўшы з сябе за час хваробы ўсё, што толькі было ў жываце, і цяперака, дастаўшы вялізарны кавалак хлеба, еў яго са смакам і ўсьміхаючыся вёў гутарку з абступіўшымі яго новымі таварышамі і выглядаў зусім здаволеным і шчасьлівым.

Параход меўся адысьці ў Баку толькі назаўтра і, дзеля браку кватэры, мы з Карапэтам з дазволу капітана засталіся начаваць на ім.

Энзэлійскі порт раскінуўся на берагох затокі таго-ж самага назову, недалёка ад выхаду яе ў мора. Энзэлійская затока няглыбокая і для ўтрыманьня глыбіні яе гэтакай, каб была магчымасьць свабоднага доступу параходам, у ёй бязустанку працуе зямлячарпалка. Далей ад мора за портам глыбіня затокі робіцца яшчэ меншай, так што ў іншых месцах ня толькі маторная лодка, з вострым дном і даволі глыбокай усадкай, але і звычайныя, плоскадонныя лодкі мусяць шукаць дарогі, каб ня сесьці на мель. Энзэлійская затока, ўразаючыся ў сушу, адсякае ад мора вузенькую палоску зямлі, якая ў іншых месцах мае шырыні толькі некалькі кілёмэтраў. Увесь водны абшар яе ўсеяны дробнымі астраўкамі, ледзь-ледзь выступаючымі над роўняю вады. Астраўкі гэныя зарастаюць густым лесам сітняку і разам з мялізнамі, таксама зарослымі сітняком, твораць аграмадныя абшары, маладаступныя чалавеку, ў якіх знаходзяць сабе схарон розныя гатункі вадзяных птушак, у нязьлічанай колькасьці прылятаючых сюды цэлымі хмарамі ў пачатку зімы з паўночных, халаднейшых краін.

Якіх толькі птушак ня бачыў я там! Бачыў я пышных аграмадных пэліканаў, як з торбамі, поўнымі рыбы, лятуць над воднымі абшарамі, размахваючы паволі сваімі вялізарнымі белымі крыльлямі, альбо пыш-

просьбы, адрэсаваныя на імя кураторыюму, праз рукі школьнага інспэктара таго павету, ў межах якога мае быць адчынена школа, і не пазьней, як да 1-га чэрвеня таго году, ў якім школа мае пачаць сваю працу.

Просьбы з вымаганымі дакумэнтамі трэба падаваць асобна для кожнае школы—незалежна ад таго, ці школа была чынная ўжо раней на падставе адпагоднае канцэсіі, ці толькі яшчэ мае быць закладзена. Калі-б дакумэнты былі ўжо раней перасланы ў кураторыюм, дык трэба пазвацца на адносная пісьмо.

Кураторыюм напамінае, што арт. 10 распараджэньня Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель з 11 кастрычніка 1919 г. адносна да школьніцтва і асьветы („Dz. Ust.“ b. Zarz. Cyw. Ziem Wschodn. z d. 18 XI 1919 r. Nr. 31, poz. 340) пастанаўляе, што пры просьбе аб дазвол на прыватную народную школу мусяць быць пададзены:

1) сьцьверджанае натарыяльна забавязаньне адносных асоб, што бяруць на сябе матар'яльную адказнасьць за ўтрыманьне школы і моральную адказнасьць за кірунак яе;

2) дакладнае азначэньне школьнага памяшчэньня;

3) заява павятовага доктара, сьцьверджаная старастай павету, што сказанае памяшчэньне адпавядае дзеля школьных мэтаў з пункту гледжаньня гігіены;

4) азначэньне тыпу школы (4 аддзелы, 5 аддзелаў і г. д.), яе праграмы, мовы навучаньня, падручнікаў дзеля карыстаньня вучняў, а таксама лічбы клясаў наагул і лічбы клясаў у мамэнт адчыненьня школы;

5) паказаньне адказнага кіраўніка школы з падробнай падачай ступені адукацыі, кваліфікацыяў і асабістых датаў, як век, нацыянальнасьць, вызнаньне, папярэдняя пэдагогічная практыка і г. д.

Адначасна кураторыюм выясьняе, што:

1) пад дакладным азначэньнем памяшчэньня трэба разумець падачу падробнага адрэсу школы і прадстаўленьне пляну на памяшчэньне з паказаньнем памераў;

2) аналёгічна да загадаў п. п. IV і V цыркуляру міністэрства рэлігійных вызнаньняў і публічнае асьветы з 31-га жніўня 1926 году № I 9514/26 (Dz. Urzęd. Min. W. R. i O. P. Nr. 13, poz. 176), сямі і шасьці-клясовыя школы могуць быць тварованы, маючы найменш 5 пакояў дзеля лекцыяў, 5-клясовыя — найменш 4 пакоі, 4-клясовыя — найменш 3 пакоі і 3-клясовыя — найменш 2 пакоі,— а найвялікшае абцяжэньне вучнямі лекцыйнага пакою можа мець трое дзяцей на 2 квадрат. мэтры школьнага пакою“.

## БРАТУ.

Пакінь, браток, ня плач, даволі!
Нічога роспач нам ня дасьць,
Хоць мы ня маем шчасьця - долі,
Нас кожны любіць асьмяяць.

Трывай, браток, ня дайся згінуць
І думку новую хавай,
А плач і роспач трэ' пакінуць,
Хай іх пазбавіцца наш край!

Цярпі, браток, прыдзе часіна
І станем мы на новы шлях,
Бяда навекі нас пакіне
І жыць - цярпець ня будзе страх.

Ня думай, брат, што мы бяз сілы,
Бо сіла ёсьць у нас самых.
Хоць бедны мы, хоць мы пахілы,
Ня хочам скарбаў мы чужых.

Дык хай цябе нішто ня страша,
Здабудзем шчасьце мы самы,
К жыцьцю краіна ўстане наша,
Настануць сьветлыя нам дні!

Н. Жальба.

---

на плывуць па вадзе, шукаючы здабычы. Я бачыў качак розных гатункаў, рознага колеру і велічыні; былі паміж імі і добра мне знаёмыя нашыя краквы і цыранкі; бачыў я розныя гатункі чаек і кулікоў і шмат-шмат іншых птушак, назову каторых мне ніхто ня мог сказаць, а сам я ня ведаў, бо нажаль мала вучыўся аб птушках.

Паміж розных гатункаў качок зьвярнуў маю ўвагу асабліва адзін, які розьніцца ад знаёмых мне іншых тым, што бруха мае, аперанае нейкім бліскучым жорсткім пухам сьнежна-белага колеру. Пух гэны моцна трымаецца за скуру, як поўсьць за скуру зьвяроў, і, зьняўшы з гэткай качкі скуру, даволі тоўстую і моцную, можна выкарыстаць яе, як футра. Як яна завецца—ня ведаю. Як я ўжо казаў, найбольш птушак у Энзэлі бывае ў зімовы час, калі скончыцца прылёт госьцяў з паўночных халаднейшых краін.

Колькі іх там зьбіраецца ў гэтым часе—можа зразумець толькі той, хто бачыў гэта ўласнымі вачыма. Мне шмат расказваў аб гэтым наш ротны доктар—вялікі паляўнік.

— Там ня то што мільёны, цэлыя мільярды іх гнязьдзяцца ў гэных сітнякох,—казаў ён мне.

І калі я, недаваряючы, круціў галавою і жартуючы пытаў у яго, ці ведае ён, што гэта азначае мільярд, дык доктар бажыўся, што ня брэша і намаўляў мяне паехаць калі-небудзь з ім разам у гэныя сітнякі на паляваньне і праканацца.

Доўгі час нам гэта не ўдавалася дзеля розных прычынаў, ажно раз сабраліся мы і паехалі. Паехала нас шасьцёх стральцоў на дзьвёх пласкадонных лодках. Пагода была ціхая, спакойная, затока выглядала як вялізарнае люстра. Праплыць нам трэ' было добрых пяць-пэсьць кілёмэтраў да месца, дзе ў лябірынце астраўкоў, паросшых сітняком, быў, паводлуг словаў доктара, найвялікшы зьлёт качок. Стралянь

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Земляроб у цяперашнім часе.

Мэтаю й задачаю кожнага земляроба зьяўляецца дасягненьне магчыма якнайбольшага даходу з гаспадаркі. Гэтак разумеем сягоньня сельскую гаспадарку. Даўней земляробаў ня так цікавіў даход з гаспадаркі, як сягоньня: зямлі было даволі дый расходы былі меншыя. Болей цікавілі харчы, а вопратка, рэчы і прыладзьдзе былі найчасьцей выраблянымі ўдома і іх ня трэ' было гэтулькі, як сягоньня. Дзеравянны воз, дзеравянная саха, гэткая-ж самая барана займала пачэснае месца ў земляробстве, а матар'ял на гэта ўсё дастаўляў бор, што стаяў за адны гоні.

Сягоньня йначай! Нават найболей адсталы земляроб мае шмат грашавых расходаў, дык і хоцькі-ня-хоцькі мусіць паднімаць сваю гаспадарку, павялічаць даходы, каб выперадзіць расходы. А даходаў можа дасягнуць тады, калі, як трэба, упраўляе расьліны і гадуе набытак, які найлепей аплачваецца ў яго гаспадарцы. Коратка кажучы, калі мы хочам мець вялікія даходы, дык павінны свае гаспадаркі давясьці да лёкальных (мясцовых) варункаў, г. знач., дзе лепш сеяць збожжа на акопныя — там гэта рабіць, а дзе лепей вясьці гадоўлю быдла ці стады — там гэтага і трымацца.

Але дробным земляробам трудна паасобна ў вышэйпаказаных варунках адтрымаць добрыя рэзультаты.

Ведаем з практыкі дый бачым, як людзі даходзяць да зьдзіўляючае заможнасьці, і гэта робяць толькі шляхам адпаведнага скоопэраваньня.

Наагул управа збожжа і гадоўля быдла стаіць у нас нявысока часта не таму, што мы ня хочам прылажыць стараньняў або працы, а таму, што мы ня ўмеем і робім так, як лічым за лепшае, паводле свайго ўласнага пагляду, і самі ня ведаем, што гэтым прыносім вельмі вялікую шкоду сабе і сваёй гаспадарцы.

Як памагчы бядзе?

Адказ ясны: трэба вучыцца, каб не аставацца з-заду навачасных разуменьняў аб сельскай гаспадарцы і гаспадаравьні і ісьці наперад разам з поступам зямельнае культуры. Цяжка сягоньня вучыцца самастойнаму гаспадару, бо і часу няма і гады ўжо ня тыя.

Навука ў земляробскай школе павінна была-б цягнуцца прынамсі год, альбо і болей, а калі-б і знайшоўся гэткі шчасьлівец, якому ўдалося-б набрацца земляробскае навукі, дык-жа на гэтым справа не канчаецца, бо зямельная культура ўвесь час ідзе наперад і бачым, што саха ды ўсе іншыя дзеравянныя прылады, сягоньня ўжо заменены ўдасканаленымі жалезнымі, якімі лепей выробляем сваю зямлю і маем лепшыя плады.

Адным з спосабаў найлепшага падняцьця дробнага земляробства ёсьць азнаямленьне кожнага з апрацованымі і ўдасканаленымі дасьведчаньнямі іншых так, каб і мы з іх карысьць мелі. Гэта нам палягчае Земляробскі Гурток, дзе, не адрываючыся ад сваіх штодзенных заняткаў, без вялікіх натугаў і страты часу, супольна і ступянёва будзем пазнаваць тое, што здабылі іншыя ўласнымі трудамі, а часта і вялікай зартатай капіталу ды сваім розумам. Цераз Земляробскі Гурток за супольныя грошы можна купляць важнейшыя і неабходныя земляробскія прылады ці набываць лепшае насеньне, або добрыя вогеры, стаднікі, а пават і цяляты добрых гатункаў ды інш., як гэтак сама выпісваць земляробскія кнігі і газэты, чаго паадным у дробным земляробстве часта мы зрабіць ня маем магчымасьці.

---

качок можна толькі ўвечары, падчас пералёту, бо знайсьці іх паміж гэнай гушчыні, з якой яны рэдка калі выпаўзаюць на адкрыты прастор, проста немагчыма.

Добра прад захадам сонца мы ўжо былі на месцы і, ўцягнуўшы лодкі ў сітнякі, чакалі пералёту.

Ціха было вокал. Не паварушыцца сітняк, ня дрыгне хваля, толькі хмары камароў таўкуцца над галавою, бзыкаюць і кусаюць. Затока і астравы, і сітнякі быццам вымерлі. Калі за некалькі хвілін да заходу сонца разам ажыло гэнае зачарованае каралеўства, з усіх бакоў чутны галасы птушак, краканьне, піск, сьвіст, сітнякі заварушыліся быццам жывыя і пачаўся пералёт. Цэлыя хмары птушак з шумам і лопатам падымаліся з сітнякоў і ляцелі кудысь далёка; насустрэч ім ляцелі новыя хмары і так усьцяж, бяз конца.

Лодкі нашы загрымелі стрэламі. Раз за разам з гэнай лятучай хмары адрывалася чорная грудка падала ў ваду—то былі трапленыя птушкі. Ня шмат іх было, бо ляцелі яны даволі высока, дый стралялі мы неяк неспакойна, гарачыліся, але ў канцы нашае стралянiны, якая трывала ня больш як 20 мінут, выстраляўшы мусіць каля дзьвёх сотняў набояў, мы падабралі 42 штукі качок. Пералёт трываў нядоўга, бо ў гэнай паўднёвай краіне, зироку, які ў нас трывае яшчэ доўга пасьля заходу сонца, амаль зусім няма і праз некалькі хвілін, пасьля заходу сонца, робіцца зусім цёмна і наступае ноч.

— Ну што, паночку, ці брахаў я, кажучы аб мільярдах качок?—пытаў мяне доктар.

Пасьля таго, што я бачыў, здавалася мне, што доктар не брахаў.

*Дзядзька Пранук.*

(*Працяг будзе*)

Вось-жа, хто ня чытае земляробскіх кніжак і газэтаў, хто не стараецца з іх пазнаць, як гаспадарацъ іншыя, як вырабляюць і ўгнойваюць зямлю, якія калі і як ужываюць прылады, якія сеюць расьліны, як садзяць, даглядаюць, зьбіраюць, як гадуюць інвэнтар, як яго кормяць і даглядаюць, як зьбіраюць свае плады, скуль бяруць грошы на неабходныя расходы, той дабравольна пазбаўляецца магчымасьці падняцьця свае гаспадаркі, той сам сабе робіць крыўду.

Хочучы павысіць даход з нашае гаспадаркі, мы павінны пакласьці вялікі націск на гадоўлю добрага інвэнтару. Менш, але штось добрае і як мае быць утрымаць—у гэтым увесь прынцып, чаго павінен трымацца земляроб. Даход ад інвэнтару ў значнай часьці залежыць ад таго, як перавядзём на грошы малочныя і жывёльныя прадукты, таму што часта больш зарабляюць пасярэднікі, як адтрымлівае сам земляроб за свой прадукт.

Дык і даўно ўжо пара ўзяцца за тварэньне к о о п э р а т ы в а ў для збыту, а ў першую чаргу коопэратываў малочных, якія дадуць вялікія паслугі і павялічаць даходы дробнага земляробства.

Крыху добрае волі, стараньня, пагляду ў сваім уласным інтарэсе на сваю гаспадарку і зробіцца вялікая зьмена — даход пачне расьці, бо кожны добра выраблены загон, кожная жывёла зьяўляецца ўдзячнаю свайму хлебадаўцу за тое, якім ён яе дарыць, стараньне.

З Богам—да працы з адной толькі думкаю: калі паправім сваю гаспадарку, дык і ўвесь наш край ад гэтага выграе і павялічыцца значэньне яго ў вачох нашых суседзяў.

## Узорная вёска.

Палючай патрэбаю кожнае здаровае гаспадаркі будзе справа сцаляньня або скомасаваньня зямлі. Пакуль ня скончым з гэт. званаю церасьпалосіцай, або з паасобнымі загонамі і рэзкамі, параскіданымі то тут, то там, датуль нельга будзе лятуцець аб парадачнай пладазьменнай гаспадарцы.

Трэба таксама зьвярнуць увагу дробных земляробаў і на тое, каб у будучыні ўхіляліся ад гэткіх падзелаў зямлі паміж дзяцьмі, якія-б ізноў вялі да рэзак. Разумеем, што ўхіліцца ад падзелаў ня ўдасца, насяленьня прыбывае ўсё болей, цяжка зрабіць так, каб бацька аддаў аднаму дзіцяці ўсю гаспадарку, а другому ня даў нічога — гэта было-б несправядліва. Аднак-жа, пры дзяльбе, як у інтарэсе бацькоў, так і дзяцей ляжыць тое, каб выдзеленаму дзіцяці даваць надзел у адным кавалку.

Другою палючаю патрэбаю вёскі зьяўляюцца гэтак званыя куртатыя (карлікавыя) гаспадаркі і неабходнасьць папаўненьня іх да нормаў самастойных гаспадарак.

Выжыць на аднэй, дзьвёх, а нават і трох дзесяцінах у нас рэдка хто зможа. Гэткія гаспадаркі—замалыя, каб выкарміць і ўтрымаць сябе з цэлаю дружынаю. Каб на чорны дзень адлажыць крыху грошаў, каб на вясну мець збожжа на засеў і крыху грошаў на закупку гнаёў і лепшых гаспадарскіх прыладаў, каб нарэшце мець крыху грошай на аплату падаткаў, вучэньне дзяцей, на кніжкі, газэты і г.д.,— сяго ньня сябры дружынаў з куртатых гаспадарак найчасьцей ідуць на лета на работы за граніцу, працаваць для чужынцаў за мізэрныя грошы, або наймаюцца на работы ў краі. Калі ўсе яшчэ здаровыя і пра-

---

## Валакаднікі.

Слова гэтае, ў мясцовасьці, дзе я прыйшоў на гэты сьвет, азначае тое самае, што ў літэратурнай нашай мове ды і ў большасьці беларускіх мясцовасьцяў — в а л а ч о б н і к і.

Ад гэтага слова мае землякі стварылі й дзеяслоў, датарнованы да самога дзеяньня в а л а к *а* д н і к а ў, і кажуць, што яны ходзяць в а л а к *а* ц ь або в а л *о* к а ц ь.

Вось і прышло мне на думку падзяліцца з чытачамі „Бел. Дня“ тым, што засталося ў маёй памяці ад беспасярэдняга бачаньня вялікоднага валак*а*ньня або валачобнічаньня ў роднай вёсцы за пэўны пэрыяд з некалькіх гадоў да вялікай вайны.

У вельмі маладыя гады, бо маючы толькі 16 гадоў веку, я пакінуў сваю вёску і, модна кажучы, пачаў пролетарызавацца на розных канцэлярскіх службах, займаючыся па магчымасьці самаадукацыяй ды папісваючы ў газэтах. Апошнія два гады перад вайною прабыў вясковым настаўнікам ў сакольшчыне, але кожны Вялікдзень, аж да самага 1914 году стараўся прыяжджаць у родную вёску і быць там сьведкаю стара даўнага беларускага нашага звычаю — в а л а к а н ь н я.

Вучонымі дасьледжана, што звычай гэты зусім і нехрысьціянскага нават паходжаньня: ён у нас вядзецца з невядомых паганскіх часоў. Аднак у мае дзіцячыя гады,—гэта я добра помню,—хрысьціянскія мамэнты неяк перакрыжоўваліся з старадаўнімі паганскімі, бо в а л а к а д н і к і пялі, як песьні аб Уваскрасеньні Хрыста, так і зусім сьвецкія песьні, аб характары якіх пагаворым ніжэй.

Дый што там капацца ў досьледах вучоных? Самое-ж сьвята, калі адбываецца пад вокнамі нашых сялянскіх хатаў гучныя песьні в а л а к а д н і к а ў, і дасюль яшчэ завецца беларусамі ня йначай, як—Вялікдзень. Праўда, сярод каталікоў-беларусаў я чуў, як завуць яны гэтае сьвята пакасьцельнаму і папольску— Wielkanoc.

Ну, але не бяда: каму дзень, а каму ноч, до-

цаздольныя ў гэткай дружыне, дык сяк-так канцы з канцамі зводзяць.

Але ня дай Божа якога-нібудзь няшчасьця над гэткай дружынаю,—тады хоць бяры апошнюю кароўку ці канінку дый вядзі да жыда, бо няма іншага выхаду.

Дзеля гэтага такія куртатыя гаспадаркі трэба павялічыць хоць да 5-ёх гэктараў (няцэлых 5 дзесяцін), ці, як гаворыцца—упоўназямеліць.

Толькі тая вёска, якая будзе вольнаю ад куртатых і шнуравых гаспадарак, можа зрабіцца добрым грунтам для будаваньня ўзорнае вёскі.

Мы ўспаміналі раней, што кожная вёска, як цэласьць, павінна мець пашу для быдла і сякі-такі лясок на дровы.

У вёсцы, якая ня будзе мець свае пашы ці дроў, заўсёды будзе разьвівацца злачынствы, бо кожны, або блізка што кожны, замест таго, каб купіць, будзе лічыць за лепшае — ўзяць чужое. Хоць яно і трудна ручацца, каб у вёсцы, якае мае пашу і ўласныя дровы, ня было ўжо зусім кражы, дык усё-ж такі напэўна менш будзе гэткіх пакусаў, якія ў сумяньні не аднаго вяскоўца заглушаюць пачуцьцё грэшнасьці і пхаюць на злачынства.

Як рацыянальна гаспадарыць на гэткіх сцэленых і ўпоўназямеленых гаспадарках—тут у гэта ўваходзіць ня будзем: да гэтага дайдзём у апісваньні, як дайсьці да стану ўзорнае вёскі, а тут толькі зазначым, што кожная гаспадарка павінна да гэтага даходзіць сваімі ўласнымі дарогамі, бо кожная мае іншыя варункі і асяродкі і ў кожнай ёсьць іншы характар гаспадараньня—тут расьліна, там гадоўля жывёлы, а яшчэ дзе-нібудзь—гародніцтва і інш.

У чародным артыкуле пастараемся накідаць плян узорнае сядзібы або гаспадарчых будынкаў.

# Гаспадарчыя парады.

## Як трэба садзіць высадкі

Кожны разумны гаспадар, а перад усім гаспадыня павінна дбаць аб тым, каб мець на вясну сваё гароднянае насеньне.

Маючы сваё насеньне, дакладна можна судзіць аб яго дабрыні і можна ў кожную пару пасеяць. Некаторыя гаспадыні аб гэтым ня дбаюць і за тое часта на гэтым трацяць. Тут я раскажу, якія трэба выбіраць буракі і іншыя высадкі і як вясной іх садзіць.

Здараецца, што гаспадыні, шкадуючы вялікага бурака, бручкі і д. п., выбіраюць на высадкі самыя найменшыя, думаючы, што гэта ўсё роўна.

Аднак яны моцна мыляюцца, бо і прыказка гаворыць — „што пасееш, тое і пажнеш“. Малы бурак, ня можа вытварыць такой націны і стольки карэньняў, як вялікі, і дзеля гэтага насеньне на такой высадцы будзе зусім марнае.

Увосень, адабраўшы найбольшыя буракі, бручку, моркву і інш. на высадкі, трэба палажыць іх на зіму ў такое месца, дзе не памёрзьлі-б і ня згнілі-б. Вясной трэба высадкі садзіць у гарод тады, калі ўжо можна спадзявацца, што марозу ня будзе; садзіць іх трэба ня ўсе ў адным месцы, бо могуць памяшацца, а садзіць трэба паасобна.

Кожны хіба-ж ведае, што пакуль будзе насеньне, то перш зьявяцца красачкі. Красачкі вытвараюць пылок і гэтым пылком пладавыя органы ў красках запладняюцца. А калі, напрыклад, (а гэта ў нас часта робяць) будзе разам пасаджаны бурак чырвоны сталовы і бурак белы (для жывёлы) або бручка з капустай, то насеньне адтрымаецца ад такіх высадкаў памешанае.

Пасеяўшы такое насеньне, вырастаюць буракі памешаных гатункаў. Таксама з бручкай і капустай робіцца, калі пасеяць разам. Бручкі будзе болей, а то і ўся бручка, а капуста прападзець.

---

сіць таго, што сьвята гэтае народ наш лічыць вялікім.

Вось-жа ў гэта вялікае народнае сьвята, на першы дзень яго, і хадзілі па вёсках мае роднае мясцовасьці валакаднікі, як іх там завуць.

Дарэчы сказаць і вёскі там у нас, у лясной глушы Горадзенскага павету, вакол і ў нетрах азёрскага лясьніцтва! Якіх толькі назоваў яны ня маюць: Баброўня, Вострава, Полымя, Сіні-Камень, Шкленск, Ашуркі, Нівішча, Шчанец, а з іншага боку, ў бязьлеснай мясцовасьці: Бандары, Лішчыцы, Стральцы, Канюхі, Галавачы, Асошнікі (або Карашава—казённае), Белякоўшчына, Карашава-панскае, фальварак князя Сьвятаполк-Чацьвяртынскага з дзівачным назовам — Фенкава, хіба да расейскага якога дзявочага імя—Өеня (Тахвіля)!

І вось увесь хіба ўжо раён, па якім з вёскі ў вёску, ад хаты да хаты, ўночы з першага на другі дзень Вялікадня, хадзілі ў нас валакаднікі, канчаючы свае валачобныя сьпевы ў сваёй вёсцы, а пачынаючы іх з суседніх вёсак, поводле свайго выбару. Валакалі хлопцы і дзяўчаты, разам складаючы саматужны вясковы хор, часамі вельмі складны, які сапраўды прыемна было паслухаць.

А калі дадаць да гэтага, што валакаднікі найчасьцей забіралі з сабою і сваіх вясковых музыкаў, пяючы пад скрыпку, а часам і разам з гармонікам (бубен цягаў хто-нібудзь з дзяцюкоў пад пахаю не для сьпеваў, а ўжо зусім для іншай мэты), дык можна сабе ўявіць, дзеля чго валакалі? А проста для самае веселасьці, якую нават і сама зямля-маці выказвала, будзячыся ад нуднага зімовага сну.

Што-ж пялі нашыя валакаднікі? І як яны калісь валакалі?

З раньніх сваіх дзіцячых гадоў я памятаю, што ўсё гэта мела пэўны свой шаблён.

Пад вакно бацькавай (ну, пэўна-ж і матчынай!) хаты падходзіла кампанія моладзі з якой-нібудзь суседняй вёскі, як толькі пачынала, як там у нас кажуць, шарэць і адзін з хлапцоў тройчы голасна вітаў парасейску:

Гэта ўсё робіцца таму, што буракі белыя і чырвоныя, капуста і бручка маюць падобныя красачкі.

Пладавыя органы чырвонага бурака запладніліся пылком з красак бурака белага, а пладавыя органы капусты запладніліся пылком з красак бручкі, або наадварот, бо вецер пераносіць пылок з аднае высадкі на другую.

Дзеля гэтага можна высадкі садзіць у адным месцы толькі тыя, якія моцна розьняцца (асабліва краскі) між сабою.

Высадкі падобныя трэба садзіць асобна, каб вецер не пераносіў пылку з іх красак

Дык памятайце аб гэтых варунках і датарнуйцеся да іх.

*Зьдар Зарак.*

### Барануйце вясной сенажаці.

Галоўная прычына неўраджайнасьці нашых лугоў, а разам з тым і недахватку сена, ёсьць мох, якім, як падушкай, пакрыты ўсе нашыя сенажаці; мох душыць траву, адбіраючы ад яе ўсю вільгаць і спажыў у грунце.

Каб выкараніць мох, трэба сенажаць добра выбаранаваць. Барануецца тады, як толькі сойдзе сьнег і зямля добра не адтанець. Барана ў гэту пару добра вычэсваець увесь мох. Выдзерты мох трэба спаліць, перад гэтым сабраўшы яго ў кучы, або пераясьці дамоў у хлеў.

Няхай толькі гаспадар папрабуе зрабіць гэта толькі раз, дык адразу перакапаецца, якая вялікая карысьць ад баранаваньня сенажацяў. *С. З.*

### Бульба, як даходная стацьця ў гаспадарцы.

Якую карысьць прыносіць у гаспадарцы бульба, хіба кожнаму селяніну ведама, але, апрача таго, бульба можа служыць, як пабочны даход земляроба не ад прадажы на кірмашох, а ад вырабу крахмалу. Прыклад вось які:

Калі ўзяць 3 пуды бульбы, зьдзёрці на тарку і выпаласкаць крахмал, дык адтрымаем 11—12 фун. крахмалу, каторы ахвотна купляюць па цане 45 грош. за фунт, што за 11—12 фун. будзе прыблізна— 5 злот.

Тры пуды бульбы, калі купіць на кірмашы, каштуе 3 злотыя, а крахмал ад 3 пуд. бульбы каштуе 5 зл., астаецца чыстага заробку 2 злотыя ды плюс ажымкі, з каторых можна зрабіць яду, як пірагі, бліны, клёцкі.

Як высушыць крахмал, гаспадыня лепш ведае, але можна сьцьвярдзіць, што за адну пару высушваецца, ў звычайнай сялянскай хаце, до 12 ф. крахмалу *бяз усякіх прыладаў.*

Гэткім чынам гаспадар можа мець пабочны заробак і ў цяжкую гадзіну пракарміць сям'ю.

### Як трэба садзіць і дагледаць бульбу.

Нядаўна яшчэ наш земляроб-беларус узіраўся на панскі двор і культурнае вядзеньне гаспадаркі з зайздрасьцю і не прадстаўляў гэтай культурнай магчымасьці ў сябе дома. Сягоньня ён нароўні, а нават папярэджваець пана ў адносінах да тэтай-жа гаспадаркі. Папярэджаньне гэта ёсьць культурна-прасьветнае і гаспадарчае разьвіцьцё нашага селяніна. З кніжак, а барджэй з газэт, селянін беспасярэдня навучаецца праводзіць культуру ўва ўсіх галінах жыцьця. Словам, уводзіць навіну хаця часта навошчуп. Якую карысьць маець селянін ад культурна-гаспадарчай веды, вось ніжэй угледзім. Возьмем прыклад з бульбы, як самага неабходнага прадукту ў гаспадарцы. Калі 20 гадоў назад селянін меў ураджайнасьць бульбы сам-пяты, дык сягоньня ён маець сам-дзеся-

---

— Хрыстос воскрес?

Гасьцінны гаспадар, ці проста хто-нібудзь з хатніх, таксама тройчы адказваў:

— Воистину воскрес!

Пачуўшы гэтыя адказы, прадстаўнік валакаднікаў ужо зусім пэўным тонам заяўляў пабеларуску:

— Пане гаспадару, пазвольце дом разьвесяліць.

— Весялеце, весялеце, — адказваў гаспадар з хаты.

Калі валакаднік, які пытаўся пазваленьня, быў добры гаспадароў знаёмы, напр. з свае вёскі, дык пазваленьне часам давалася і ў жартоўнай форме:

— Весялі, весялі, толькі хаты не развалі...

Адмаўляць валакаднікам лічылася ганьбаю для гаспадара і яны заўсёды галасілі пад вокнамі да самае раніцы, зьмяняючы адны адных, партыя за партыяй. Іншы раз чулася ў вёсцы некалькі песьняў адразу пад вокнамі некалькіх хатаў...

Калі цэрамонія пазваленьня канчалася, дык музыкі пачыналі мотыў вялікоднае песьні, хор дружна падхапляў і песьня лілася добрае з паўгадзіны, трасучы, ў гэту сапраўды вялікую для вёскі ноч, яе вечную цішу і адбіваючыся магутным рэхам у ваколічным, блізенькім лесе за соннаю Котраю - ракою.

У мае дзіцячыя гады (апошні дзесяток XIX сталецьця) сьпявалася, відочна вуніяй занесеная да нас, песьня, якую я няраз бачыў ў польскай кантычцы, быўшай у хаце маіх праваслаўных бацькоў:

Wesoły nam dziś dzień nastał,
Którego z nas każdy żądał —
Alleluja, Alleluja, Alleluja!

І неяк толькі пасьля 1905-6 гадоў першы раз нашая вёска ад валакаднікаў пачула:

Ходил Христос по всей земле
Христос Воскрес, Сын Божы!
Искал Христос Свае Маці,
Христос Воскрес, Сын Божы!
А знайшоўшы — стал пытаці,
Христос Воскрес, Сын Божы!...

Песьня была гэткаю навіною, што прынёсшых яе валакаднікаў проста замучылі, просячы паўтараць, за што іх пасьля шчодра дарылі.

Словы гэтай песьні ня былі чыста расейскімі, яна

ты, што знача 100% на палепшаньне эканамічнага палажэньня гаспадаркі. Але аб гэтым досыць. Пераважна хачу высьвятліць пытаньне, як трэба садзіць і даглядаць бульбу ў часе росту, каб давясьці яе да вышэйшай ураджайнасьці. Заўсёды будуць дрэнныя рэзультаты, калі гаспадар не заахвоціць сябе да тае, ці іншае працы, дык, каб давясьці бульбу да вышэйшай ураджайнасьці, неабходна ведаць вось што: Зямля мусіць быць падабрана з восені, каб ня была дужа на ўзгорку, ці ў лагчыне, а каб была пасярэдняя, дзе ня спыняецца вада і тады-ж мусіць быць навезена гною і заарана. Вясной класьці гной пад бульбу небясьпечна, на выпадак сухога лета. Узораную з восені зямлю, вясной вырабляць, каб была дужа мягкай, ня трэба. Садзіць бульбу найлепей у зямлю дзірваністую, таму што зямля ня так асядаець ад дажджоў і не баіцца так сушы. Вырабіць зямлю гаспадар заўсёды патрапіць і ў часе росту бульбы. Садзіць бульбу трэба цераз баразну пад плуг на тры вяршкі ўглыб, а бульбіна ад бульбіны каб была ня менш як на $1/2$ арш. Трэба глядзець, каб не паставіць вузкіх барознаў, бо як прыдзе час ганяць, каб было месца праехаць з акучнікам, ці з сошкаю па баразьне. Найлепшая пара для саджэньня бульбы, калі зацьвітуць сады. У сьцюдзёную зямлю садзіць ніколі ня варта, каб не пашкодзіла на ўраджайнасьць; бульба для саджэньня мусіць быць ня меншая за курынае яйко. Гэтак сама і перарэзваць ніколі няварта.

У часе росту бульбы перщай работай будзе баранаваньне яе ўжо тады, калі бульба будзе паказвацца на верх. На другі дзень, калі радкі каліваў пасьля першага баранаваньня падраўняюцца і баразна, па каторай пойдзе сошка ў часе ганяньня, будзе досіць прыкметна выдзяляцца, трэба бульбу паганяць, а спусьціўшы яшчэ дзень, ізноў забаранаваць. Гэтак бульба застаецца аж пакуль ня вырастуць калівы прыблізна ў $1/4$ арш. Тады пачынаюць ганяць другі раз. Гэтым разам трэба матыкаваць бульбу і абкопваць рукамі каля каліва зямлю зьнізу ўверх. Трэці, гэта знача і апошні, раз ганяць бульбу трэба перад самым квяткаваньнем яе.

Гэткім парадкам бульба даводзіцца да самай высокай ураджайнасьці.

*Янка Тарыкоў.*

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб параднях для мацярок.

(Пераклад з польскага).

Калі нам штось баліць, дык дастаём параду ад лекара. Але-ж часта хвароба зьяўляецца вельмі далёка зайшоўшаю і тады ўжо найлепшы лекар нічым памагчы ня можа. А лекары пераканаліся, што куды лягчэй папярэдзіць хваробу, чымся вылячыць яе.

Асаблівую вагу і значэньне мае гэтае папярэджваньне хваробы ў тых палажэньнях, якія абходзяць мацярок: у канцавых месяцах цяжарнасьці, калі йдзе аб жанчыну і ў першым годзе жыцьця дзіцяці. З той мэтаю, каб даваць парады жанчынам, якія маюцца зрабіцца мацяркамі, а таксама й мацяркам, якія хочуць ўратаваць сваіх дзетак ад шмат якіх небясьпекаў, закладаюцца парадні для мацярок. У нас яны нясяць назоў: „Станцыі апекі над маткаю і дзіцём“ („Stacje opieki nad matką i dzieckiem“). Дасюль яны істнуюць блізка што выключна ў вялікіх местах. А вельмі спатрэбіліся-б і на вёсках, дзе мацяркі робяць шмат памылак у выхаваньні дзяцей, і няма каму паказаць ім належнае дарогі.

---

была так моцна зьбеларушчана, што пачынаючы з словаў „Сын Божы“, і іншых, вымаўляных так, як яны ў мяне тут напісаны, мела і шмат цікавых родных зваротаў.

Русіфікацыя Беларусі пайшла мацнейшым тэмпам пасьля першае, няўдачнае, праўда, расейскае рэвалюцыі і гэта дало сябе чуць у песьнях валакаднікаў, якія з тае пары аж да самага 1914 году пяялі звычайна замест польскае — рускую песьню. Пасьля гэтае песьні пяялі яшчэ царкоўны «тропарь»: „Христос воскресе из мертвых“. А пасьля песьні аб Хрысьце адбывалася віншаваньне, якое ў нас перакручвалі на свой капыл у—імшаваньне.

Адзін з валакаднікаў на немагчыма благой польскай мове віншаваў гаспадара, выказваючы яму самыя найлепшыя пажаданьні.

Валакаднікі добра ведалі, ў якой хаце ёсьць дзяўчына—падростак, ці нават такая, што ўжо не адны сваты ў яе безрэзультатна пабывалі.

У кожным выпадку яны датарноўваліся, як кажуць, да абстаноўкі і, згодна з апошняю, пяялі — „Вербу“.

Вербаю або вярбою звалася ўжо зусім сьвецкая песьня валакаднікаў, якая бярэ свой пачатак недзе ў глыбокай паганскай нашай мінуўшчыне. Пазваленьне (пасьля віншаваньня) сьпяваць яе выпрашвалася ўжо куды з меншай цэрамоніяй і сьпявалася яна з гэткімі ўстаўкамі, імпровізованымі, як я казаў, згодна з абстаноўкаю, тут-жа якім-нібудзь дзяцюком-запявайлам, што дзівіцца толькі трэ' было, колькі ў нашых вясковых масах ёсьць самародкаўпоэтаў!

З гэтай песьняю моладзь зьвярталася ўжо не да сур'ёзнага гаспадара з усім яго домам, а толькі да яго дачушкі і чулася, як той казаў, у сваёй роднай стыхіі.

Так! у роднай стыхіі. Бо „вярба“ — гэта ўжо песьня і няпольская і няруская, а наша родная—беларуская.

Гэткаю я яе чуў апошні раз у 1914 годзе. Ой,

„Станцыя апекі“, як паказвае назоў, апрача парадаў і паказаньняў, атуляе апекаю жанчын незаможных і тых, што патрабуюць падмогі. Ужо ў другой палавіне цяжарнасьці зьяўляецца вельмі важным азначэньне, ці не пагражае цяжарнай жанчыне небясьпека ў часе полагу. Вельмі шмат тых жанчын, што паміраюць ад полагу, можна было-б захаваць пры жыцьці, калі-б яны загадзя былі зравідованы лекарам, які парадзіў-бы адбыць полаг у клініцы або ў шпіталі; бяз гэтай парады жанчыны нярах гінуць па прычыне спозьненага ратунку, альбо, — паколькі застаюцца жывымі, — дзіця прыходзіць на сьвет няжывым, таму што полагам ня ўмелі пакіраваць, як трэба.

Апрача палягчэньня лякарскага равідунку, станцыі апекі над маткаю й дзіцём пазычаюць цяжарным гэтак званыя паложныя скрынкі. У гэткай скрынцы месьціцца порце на пасьцель і для цяжарнае, гумовая посьцілка на ложак, мядніца, збанкі, ірыгатар, шчоткі, ножніцы, вата і перавязачны матар'ял — проста кажучы, усё тое, што зьяўляецца неабходным пры полагу, і аб чым у нас жанчыны рэдка падумаюць загадзя.

Гэткую парадню для цяжарных павінна мець прынамсі кожная воласьць. Равідункі мог-бы правясьці лекар з найбліжэйшага мястэчка раз у месяц — у загадзя вызначаны абвешчаны ў парадні срок. А на месцы павінна была-б знаходзіцца акушэрка, якая самастойна праводзіла-б правільныя полагі, якія не пагражалі-б небясьпекаю для цяжарнай. Пад апеку гэтай акушэркі была-б аддана і вышэйназваная паложная скрынка. Акушэрка павінна была-б дбаць аб тым, каб порце пасьля было дасканальна вымыта і каб усё, што ёсьць у скрынцы, было вернена ў парадку на станцыю. А скрынку можна зрабіць на месцы, альбо выпісаць з Варшавы з „Polskiego Komitetu Pomocy Dzieciom“, ul. Jasna 11, дзе іх маюць гатовыя і высылаюць за ўмяркованую аплату.

# Корэспондэнцыі.

## Шкоднікі беларускага руху на вёсцы.

*Горадзеншчына.*

Найбольшымі шкоднікамі ў беларускім адраджэнскім руху зьяўляюцца нацыянальна несьвядомыя вясковыя інтэлігэнты беларусы. Можна з пэўнасьцю сказаць, што кожная вёска нашай бацькаўшчыны, (гаворачы аб Заходняй часьці Беларусі), поруч з 1—2 сьвядомымі інтэлігэнтамі-беларусамі мае 1—2 суб'ектаў маласьвядомых, або і зусім несьвядомых нацыянальна.

Але найгоршая бяда ў тым, што гэты разрад несьвядомых дзеліцца на дзьве часьці.

Да ліку першых належыць часьць праваслаўных інтэлігэнтаў-беларусаў, былых расейскіх урадоўцаў, якія цяпер сядзяць на сваіх гаспадарках. Яны лічаць сябе расейцамі і на ўсю беларускую справу глядзяць, як на нешта такое, што паніжае іх годнасьць. Баяцца, як агню, мець хаця найменшую сутычнасьць з усім тым, што мае супольнасьць з беларускасьцю. Сваіх дзяцей выхоўваюць у расейскім духу і нават не дазваляюць ім гаварыць „по-мужицки“. Ніякія аргумэнты не пераканаюць іх у тым, што яны кроў ад крыві, косьць ад косьці ёсьць ні што іншае, як беларусы. Па сваім характары, гэтыя „чисто русскіе“ людзі зьяўляюцца толькі шкоднікамі ў нашым адраджэнскім руху на вёсцы, бо зусім ня цікавяцца ніякімі нацыянальнымі пытаньнямі (беларускімі) і стараюцца быць у старане ад усяго.

---

як я быў-бы ўдзячны таму, хто даў-бы мне ўзор поўнага тэксту гэтае песьні! І надоўга неадкладаючы, карыстаю з гэтых вось радкоў, зьвяртаючыся да ўсіх сваіх землякоў і наагул да нашае вясковае інтэлігэнцыі з вялікаю просьбаю, запісаць яе са словаў каго-нібудзь з цяперашніх ужо дзядзькоў, былых валакаднікаў, і прыслаць на адрэс „Беларускага Дня“.

У мяне ў памяці застаўся ні то самы канец, ні то штось блізкае да яго, з гэтае песьні.

*Вось ён:*

А пайдзем мы на грудочак,
Да віно-ж, віно зелено.
Дый пасядзем у радочак,
Да віно-ж, віно зелено.
Будзем яйкі разьлічаці,
Да віно-ж, віно зелено.
Будзем паненку выхваляці,
Да віно-ж, віно зелено.

Трэба зазначыць, што валакадвікам дарылі за іхнія песьні яйкі, якімі яны пасьля дзяліліся або закусвалі імі гарэлку на агульных ігрышчах.

Варта запісаць песьню, якую у маёй роднай мясцовасьці завуць „вярбою“. Яна — сьведка несьмяротнасьці нашае нацыянальнае культуры ў найцяжэйшых гістарычных акалічнасьцях.

Варта яе запісаць у кожнай мясцовасьці, як яна пяецца і як яе там завуць.

Няўжо-ж мы — дзеці часу нашага беларускага адраджэньня — дапусьцімся да таго, каб родная песьня загінула бяз сьледу?

Раней мне даводзілася чуць „вербу“, сьпяваную ў нас і папольску, але з тым самым прыпевам.

Пасьля „вярбы“, паненцы гаварылася ў нас таксама віншаваньне, але... папольску.

Як валакаюць у нас цяпер — сказаць не бяруся, бо з 1914 г. ніводнага Вялікадня мне не ўдалося правясьці ў родным кутку, дзе гэтак страшэнна шмат чаго зьмянілася.

*Краўцоў Макар.*

Большасьць з іх яшчэ лятуціць аб „Единой Неделимой“.

Аб інтэлігэнтах каталікох гаварыць ня прыходзіцца, бо гэтыя, за малым вынняткам, дык бяз усякага намысьленьня адразу залічаюць сябе да палякоў і на усякую праяву беларускага руху,—ці то нацыянальна-палітычную, ці то нацыянальна-культурную, — глядзяць, як на справу антыдзяржаўную, інакай кажучы,—камуністычную.

Найгоршымі ворагамі нашымі зьяўляюцца розныя бышыя ўрадоўцы, ў большасьці б. расейскія паліцыянты.

Яны ўва ўсю шырыню займаюцца ганеньнямі на беларускасьць, робячы розныя даносы, брахню і правакацыю. Гэтыя суб‘екты, стараючыся сваімі ганебнымі паступкамі заслужыць ласку пануючых, агітуюць процiў усяго беларускага. Яны кажуць: „няма беларусаў, а ёсьць толькі палякі, расейцы і просты народ“. Кожная вёска наша мае прадстаўнікоў гэткага тыпу. Галоўнае зло ў тым, што якраз падобныя паны карыстаюцца пашанаю ў вёсцы, бо перад вайною гдзесь былі на пасадах і, прыяжджаючы на пабыўку дамоў у вёску, блішчалі сваімі гузікамі, умелі гаварыць папанску, а значыць (лёгіка селяніна) — яны разумныя людзі.

І ў выпадку, калі такі суб‘ект дастане пасаду, ён робіцца вельмі шкодным прыкладам, бо мала сьвядомы бацька паказвае на яго свайму сыну і кажа: „ласкавае цялё двух матак сьсе“. І гэта зьяўляецца найгоршым злом, з якім трэба вясьці барацьбу.

*А. Кулька.*

## Аб культурнай працы.

Калі мы параўнаем сёньняшняе жыцьцё беларускае вёскі з жыцьцём гэтае-ж вёскі некалькі год назад, то адтрымаем вельмі яскравыя паказальнікі, наскольні сёньня беларуская вёска зьмяніла свой эканамічны і культурны воблік.

Як вядома кожнаму, эканамічны стан беларускае вёскі з кожным годам становіцца горшым і, няма ведама, калі пачне папраўляцца. Калі некалькі гадоў назад кожны селянін меў ня менш як пяць гэктараў зямлі і праз гэта меў можнасьць вясьці сякую-такую гаспадарку, то сёньня такіх сялян ёсьць вельмі мала.

Пераважная большасьць сялянскіх гаспадарак сёньня складаецца з двух або трох гэктараў, дый і тыя ў палосках бадай што па мэтру шырынёю.

І гэтыя палоскі павінны пракарміць сям‘ю селяніна, каторая пераважна складаецца з досыць вялікага ліку асоб і церпіць розныя недастаткі. А як гэтыя палоскі абрабляюцца і якую даюць аплату за труды, каб Бог сьцярог!.. Дый ці-ж можна, пры такіх абставінах, давясьці гэтыя гаспадаркі да культурнага ладу, каб адтрымаць з іх мінімальны прыбытак, хоць-бы пры найвялікшым жаданьні самога-ж сялянства? Ясна, што не.

Пры сёньняшніх формах вясковых гаспадарак і пры такім малазямельлі, ня можа быць ніякай гутаркі аб паляпшаньні матар‘яльнага стану вёскі, а тым больш аб культурнай апрацоўцы зямлі.

Каб пазбыцца гэтакага прыкрага стану рэчаў, тут перш за ўсё патрэбна для вёскі грунтоўная зямельная рэформа, каторая дала-б магчымасьць сялянам паставіць свае гаспадаркі на адпаведную вышыню і заняцца працай выключна на гаспадарцы. Што такая рэформа сёньня ёсьць канечна патрэбнай, даказваць ня прыходзіцца, гэта добра ведае кожны.

Дык вось, ня гледзячы на тое, што наша вёска эканамічна страшна падупала і здавалася-б, што ня дасьць ніякай рады сваёй злыбядзе, аднак яна яшчэ жыве і, ня маючы надзеі на чужую помач, сама прыступае да папраўляньня свайго жыцьця.

Больш культурны яе элемэнт зразумеў, што культурна-асьветная праца сярод сялянства ёсьць найпершым і найпэўнейшым шагам да лепшага заўтра і, добра здаючы сабе справу з таго, энэргічна прыступае да гэтае працы.

Дзякуючы працы гэтага культурнага элемэнту вёскі, пачынаюць адкрывацца на вёсках бібліятэкі, хаты-чытальні, ладзяцца розныя спэктаклі, лекцыі на розны тэмы, арганізуюцца культурна-асьветныя гурткі. Словам, вёска прабуджаецца, пачынае жыць духова і, ў зьвязку з гэтым, выяўляе патрэбу беларускага друкованага слова. Сёньня бадай няма тэй вёскі, у якую-б не даходзілі беларускія кніжкі і газэты.

Тут перш за ўсё заслугоўвае на ўвагу Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, як культурная установа, якая ў будучыні мае для свае працы шырокія пэрспэктывы. Дык вось, калі з аднаго боку наша вёска сваею галітою наводзіць на нас сум і непакой, то з другога — яна нас пацяшае і дае зразумець, што яна патрапіць даць сабе раду з усялякімі труднасьцямі. Яна толькі вымагае, каб у гэты трудны для яе час кожны шчыры беларус-патрыёт бяз розьніцы палітычных напрамкаў і праканаваньняў прычыніўся, па меры сілы, да культурнага разьвіцьця беларускай сялянскай масы. Бо культурны ровень беларускага селяніна будзе мець першарадную вагу, як з боку грамадзкага так гаспадарчага і палітычнага. З боку грамадзкага ён паможа селяніну падпарадкаваць свайму інтарэсу ўсе штодзенныя жыцьцёвыя уклады і з іх карыстацца, з боку палітычнага—прычыніцца да крышталізацыі палітычных ідэалаў, з боку гаспадарчага паможа лепей арганізаваць сваю эканамічную моц. Праз гэта, калі сёньня наша вёска патрабуе так многа культурных працаўнікоў, дык кожнаму здольнаму да гэтай працы беларусу сядзець, злажыўшы рукі і чакаць невядома чаго, ня можна. Дык-жа працуйма ўсе, не пакладаючы рук на карысьць свае Бацькаўшчыны!

*Чычынка.*

# Аб усім патроху.

## Колькі паслоў мае Эўропа?

У Польшчы ёсьць 111 сэнатараў і 444 паслоў у Сойме, далей яшчэ провінцыяльны Сойм у Сьлёнску налічвае 47 паслоў. Адзін пасол прыпадае на 50 тысяч чалавек.

Цікава, колькі-ж *паслоў налічвае уся Эўропа?*

Вось-жа ўва ўсіх эўропэйскіх гаспадарствах, апрача Расеі і Турцыі, ёсьць ні меней ні болей як дванаццаць тысяч чалавек, што маюць сэнатарскую ці пасольскую годнасьць; гэта ў сярэднім адзін пасол на 30 тысяч чалавек нашае часьці сьвету.

Паглядзім цяпер, колькі паслоў мае кожнае гаспадарства паасобку?

У першую чаргу, па колькасьці паслоў ідзе Нямеччына, *якая складаецца з восемнаццацёх паасобных маленькіх* дзяржаваў, з каторых кожная мае свой Сойм і Сэнат. У сойме для цэлае Нямеччыны гэтак зв. Рэйхстагу засядае 493 паслы.

Рэйхсрат так-жа для цэлай Нямеччыны налічвае 66 сяброў,

З паасобных гаспадарстваў, якія ўваходзяць у склад Нямеччыны, падамо толькі важнейшыя: гэтак Прусія мае 450 паслоў, Гамбург 160 паслоў і 15 сэнатараў, (гэта выходзіць — аднаго пасла на 7,000 жыхароў), Брэмэн 120 паслоў і 14 сэнатараў, Баварыя 129 паслоў.

Наагул Нямеччына мае 2,327 дэпутатаў, або аднаго дэпутата на 27,000 жыхароў.

Маленькая па абшары і колькасьці насяленьня — Аўстрыя мае 655 паслоў, або аднаго пасла на дзесяць тысяч жыхароў.

З іншых дзяржаваў найбольш паслоў маець Італія, дзе сэнатараў назначае кароль, у неабмяжованым ліку. Цяпер ёсьць у Італіі 500 сэнатараў, і 560 паслоў. Англія разам з Шкоцыяй мае 1.344 паслоў, з• іх 625 засядае ў Палаце Гмінаў, (г. зн. у Сойме), а 719 у Палаце Лёрдаў (г. зн. у Сэнаце). Як у Італіі, так і ў Англіі адзін пасол прыпадае на 30,000 жыхароў.

Падобная прапорцыя ёсьць у Чэхаславакіі, ў Вэнгрыі і ў Румыніі. У Бэльгіі, Швэцыі, Нарвэгіі, Партугаліі і Баўгарыі адзін пасол прыпадае на 20.000 жыхароў, у Югаславіі і Літве—адзін на 25,000, у Швайцарыі, Даніі, Фінляндыі, Грэцыі і Латвіі адзін на 15,000 жыхароў. У Францыі выбіраецца адзін дэпутат на 45,000 жыхароў.

Прапарцыянальна найболей паслоў маюць найменшыя эўропэйскія дзяржавы, гэтак у рэспубліцы Сан-Марыно ёсьць 60 паслоў, або адзін пасол на 200 жыхароў, у князьстве Ліхтэнштэйн 15 паслоў, або адзін на 800 жыхароў, у Альбаніі адзін на 1,500 жыхароў, а ў Люксэмбургу адзін на пяць тысяч жыхароў.

## Прылада для хады па вадзе.

Расейскі канструктар Карнілаў зрабіў „боты“ для хады па вадзе.

Каб магчыма было ўтрымаць раўнавагу цела, да „ботаў“ дададзены спэцыяльныя „крыльля“, якія трымаюць чалавека ў раўнавазе, так, што нават досіць вялікія хвалі ня могуць зьбіць яго з ног.

## Цукер павышае працаздольнасьць чалавека.

Ангійскія і амэрыканскія дактары прарабілі цэлы рад экспэрымэнтаў з рабочымі на плянтацыях, (работнікі ня ведалі, што на іх робяцца досьледы), якім выдавалася кава і гарбата ды салодкая страва, засалоджаная сахарынаю,

Аказалася, што ў тыя дні ў работнікаў была выразна паніжана мускульная энэргія.

Пэўны амэканскі фізыялёг, у працягу некалькіх месяцаў рабіў падобны досьлед над самым сабой і пераканаўся, што сутачная доза цукру у $8^3/_4$ унцыі павышае яго працаздольнасьць у гэты дзень на 22, 36 %.

Як бачым, дык цукер ня толькі салодкі, а яшчэ й вельмі карысны.

## Сталёвыя кнігі—замест папяровых.

Вядомы вынаходца Эдысон працуе зараз над аднэй вынаходкай, якая ў выпадку ўдачы зробіць пераварот у друкаваньні кніг. Яго задача—замяніць паперу на сталь. Эдысон кажа, што сталь можна зрабіць танчэйшай за звычайную паперу. Ён вылічыў, што кніга ў дзьве цалі таўсьціні можа быць складзена з 40.000 старонак, *прычым яна будзе важыць усяго адзін* фунт.

Будучы надта тонкімі і доўгавечнымі, лісты такой кнігі, па думцы Эдысона, будуць нават лепш за паперу прымаць атрамэнт і друкарскую фарбу. Сталёвая кніга пры ўдасканаленьні тэхнікі можа каштаваць значна таньней за папяровую.

## Чалавек будзе жыць 125 гадоў.

Вядомы ўсяму сьвету доктар Воранаў, які робіць апэрацыі абмаладжэньня людзей, нядаўна выступіў з дакладам аб яго працах. Доктар Воранаў паведаміў, што ім зроблена 1000 апэрацыяў абмаладжэньня. На падставе практыкі з гэтымі апэрацыямі, доктар Воранаў прыйшоў да перакананьня, што сярэдні век чалавека ў будучыні будзе 125 гадоў, пры гэтым старасьць будзе цягнуцца толькі тры месяцы.

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

## ДАСУЖЫ СЫНОК.

Матка да сыночка:
— Ах ты, парасё.
Сынок. Не, я не парасё.
М. — Як-жа не парасё, калі ўвесь у балоце.
С. — Каб я быў парасё, дык тата ня клікаў бы цябе Ганнай, а сьвіньнёй.

## ВАДА НЕ ГАРЭЛКА — ШМАТ ЯЕ НЯ ВЫП'ЕШ.

— Тодар, ці шмат ты можаш выпіць?
— Ну, колькі там можа выпіць чалавек, шклянкі дзьве-тры можа і вып'ю і то калі з цукрам.
— Дый я не аб гарбаце пытаю, а аб гарэлцы.
— Аб гарэлцы?
Ну гэта іншая справа, гарэлкі выпіць магу, колькі захочаш, абы была.

---

# Паштовая скрынка.

Грыгору Варановічу ў Песках. Прышлеце пробную карэспондэнцыю, калі падыйдзе—згаворымся.

К. Сьветавастокаву. Корэспондэнцыі Вашае на зьмесьцім, дзеля таго, што тое, аб чым пішаце, ня надта новае і цікаўнае. Пішэце далей, можа падыдзе.

Язэп Басараб ў Наваградку. За украінскі верш дзякуем, але друкаваць яго ў беларускай газэце немагчыма.

Кудлатаму. За прысланае дзякуем і скарыстаем у найбліжэйшым часе.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Родоі“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.